

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 37 (576) 25 ВЕРАСНЯ 2002 г.

## Найстаражытнейшая мячэць на Беларусі



У вёсцы Лоўчыцы на Навагадчыне адноўлена адна з найстарэйшых татарскіх святыняў - Лоўчыцкая мячэць 1420-га года.

## Манеты ў гонар Ігната Дамейкі



Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь выпусціў памятныя манеты да 200-годдзя Ігната Дамейкі. Выпушчаны манеты двух наміналаў: срэбная, наміналам у 20 рублёў і медна-нікелевая наміналам у 1 рубель. Проба срэбнай манеты - 925, вага - 31,1 г., дыяметр - 38,61 мм, адбіта 1000 манетаў.

Дыяметр медна-нікелевай манеты - 32 мм, адбіта да 2000 манетаў.

Манеты ўведзены ў абарачэнне 2 верасня 2002 г.

Дызайн С. Засовіч.



*Гэтая манета ўжо знайходзіцца ў калекцыі Лідскага гістарычна-мастацкага музея.*

## КНІГА ЖАЛОБЫ І СМУТКУ

Беспрэцэдэнтная па сваёй бесчалавечнасці трагедыя, якая здарылася пад бязвоблачным небам Нью-Ёрка 11 верасня 2001 года, ускалыхнула ўвесь свет. У той верасьнёўскі дзень у выніку тэрарыстычнага авіянападу нечакана для ўсіх, імгненна быў разбураны да шчэнту буйнейшы ў свеце міжнародны гандлёвы цэнтр, пад руінамі якога загінулі тысячы ні ў чым не павінных людзей.

Мінуў год, але і сёння сэрца спіскаецца ад думкі, што ў свеце ёсць зло, наступствы якога непрадказальныя, для якога жыццё чалавека – нішто. Памяць пра мінулае і вера ў перамогу дабрыні – зарука таго, што дабрыня пераможа.

Да гадавіны тэрарыстычнага акту 11 верасня а 19 гадзіне — якраз у той час, калі ў Злучаных Штатах Амерыкі ўшаноўвалі памяць пра загінуўшых — у фаліянт у багатым скураным пераплёце быў выраблены ў адзіным экзэмпляры клопатам Хрысціянскага таварыства міласэрнасці і грамадскай арганізацыі "Сіла ў дружбе". Унікальнасць гэтай Кнігі у тым, што кожны, можа стаць яе сааўтарам, пакінуўшы ў ёй свае словы спачування, выказаўшы свае пачуцці народу і ўраду Амерыкі. Кожны дзень на старонках Кнігі з'яўляюцца новыя запісы, якія сведчаць пра тое, што беларусам, якія зведалі шмат драматычных і трагічных старонак у сваёй гісторыі, неабыякавы лёс іншых народаў. На працягу 30 дзён гэтая гістарычная Кніга-Помнік будзе знаходзіцца ў касцёле, пасля чаго праз амбасаду яна будзе перададзена Кангрэсу ЗША. Беларускія тэксты ў гэтай Кнізе сведчаць пра тое, што, жыве родная мова, жыве Беларусь.



Чырвоным касцёле святых Сымона і Алены, што ў Менску, адбылася жалобная імша. Вернікі маліліся за тое, каб падобнае нідзе і ніколі не паўтаралася і прасілі Бога, каб Ён пасяліў у душы кожнага дабро, спагадлівасць і любоў. Пад час жалобнай імшы ў храм была ўрачыста ўнесена і ўсталявана ў яго алтары адмысловая Кніга спачування і жалобы. Гэты

Таварыству беларускай мовы, дзякуючы ініцыятыве яго старшыні Алега Трусава, лёсіла быць далучаным да святой справы падрыхтоўкі гэтай унікальнай кнігі, у якой бралі ўдзел сябры Таварыства, мастакі — Уладзімір Васюк, Вячаслаў Дубінка, Ігар і Аляксей Марачкіны.

*Ірына Ляксеева.*

## Да 120-годдзя Якуба Коласа




Да юбілею народнага песняра Якуба Коласа Таварыства беларускай мовы пры падтрымцы дабрадзеяў выпусціла мастацкі каляндарык (дызайн мастака Ігара Марачкіна) на 2002-2003 год. Каляндарык і плакат можна знайсці ў сядзібе Таварыства (Менск, вул. Румянцава, 13) і Літаратурным музеі Якуба Коласа.

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня

### Ахвяраванні на ТБМ

1. Сафро Марыя, Масква -5000 р.
2. Міцкевіч Людміла, Менск -7000 р.
3. Усціновіч Лена - 1500 р.
4. Петрукевіч Васіль, Менск -8000р.
5. Канадская суполка з Таронта - 20 дол.
6. Генадзь Свяшко, г. Менск -2000 р.
7. Алена Дэц, г. Менск - 2000 р.
8. Чырак Генуэфа, в. Пяцолі Маладзечанскі раён - 1000 р.
9. Лавіцкі Мікола - 1000 р.
10. Удзельнікі святкавання Дня пісьменнасці ў Міры - 37854 р.
11. Бубала Антон Францавіч, Верхнедзвінск, - 6600 р.
12. Руткоўскі У. М., в. Лебедзева Маладзечанскі р-н - 16400 р.
13. Шкірманкоў Фелікс, г. Слаўгарад - 5000 р.
14. Петрукевіч В., Менск -9000 р.
15. Ткачова В. С., Ваўкавыск - 1000 р.
16. Броўка Віталь, Новаполацк - 3000 р.
17. Удзельнікі святкавання перамогі бел. войска пад Воршай, Менск - 11656 р.
18. Кляшчук Сяргей, Менск - 2000 р.
19. Леанід Лыч, Менск - 5000 р.
20. "Белсвідравіна", Горадня - 300000 р.
21. Мянчук - 5 дол.
22. Мішанкоў В. Т. - 10000 р.
23. Ліс А. - 1000 р.

## Не – рэпрэсіўным законам!

**Падтрымліваю зварот Беларускай асацыяцыі журналістаў аб адмене артыкулаў Крымінальнага кодэкса "Паклёп у дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (арт. 367), "Абраза Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (арт. 368) і "Абраза прадстаўніка ўлады" (арт. 369)**

*Прозвішча, імя, імя па бацьку* ____________________
*Год нараджэння* ____________________
*Адрас* ____________________
*Асабісты подпіс* ____________________

***Заўвага:** Ваш подпіс можа стаць падставай для заканадаўчай ініцыятывы з мэтай адмены вышэйзгаданых артыкулаў. Запоўнены купон просім накіроўваць у рэдакцыю газеты.*




№ 37 (576) 25 ВЕРАСНЯ 2002 г. Наша Слова

# Беларусы ідуць...

Сярэдзіна верасня. Распачаўся навучальны год. Але пяцікласніца Маша Каралькова з **Горак** не ходзіць у школу. Не, дзяўчынка, дзякаваць Богу, не хворая і досыць па сваіх гадах разумная. Чатыры класы скончыла на "выдатна". Што ж здарылася зараз? А вось што: у чацвёртым класе дзяўчынка вучылася пабеларуску і, паколькі іншых, хто б выбраў такую мову навучання, не было, то настаўніца вучыла яе адну. Настаўніца была цудоўная, з багатай эрудыцыяй, з цёплым сэрцам і добрым валоданнем роднай моваі. Дзяўчынку шмат узнялі яе ўрокі. Але забяспечыць беларускамоўнае навучанне ў пятым класе ні адна Горацкая школа, мабыць, не можа і Машы прапанавалі вучыцца ў рускамоўным класе, ад чаго яе бацькі катэгарычна адмовіліся. Цяпер бацькі чакаюць канчатковага вердыкту загадчыка раённага аддзела адукацыі і гатовыя адстойваць сваё канстытуцыйнае права ў судзе.

**Магілёў.** У сёмы беларускі клас нацыянальнай гімназіі паступіла чатыры заявы. Дырэктар гімназіі не вельмі радаваўся ініцыятыве гарадскога ўпраўлення адукацыі адкрыць пры нацыянальнай гімназіі беларускі клас, але ўсё ж пагадзіўся. І вось вынік – толькі чатыры заявы. Што рабіць? З аднаго боку, Канстытуцыя і Закон аб адукацыі даюць гэтым дзецям права вучыцца на роднай мове. З другога боку, ці дастаткова мы багатыя, каб выконваць сваю ж Канстытуцыю? Магілёў – не Горкі. Класаў па чатыры вучні тут яшчэ ніколі не было. І ні абласное, ні гарадское ўпраўленні адукацыі не рызыкавалі браць на сябе адказнасць за адкрыццё такога класа.

Для вырашэння нялростага пытання кіраўнікі мясцовых арганізацый ТБМ напрасіліся на сустрэчу з старшынём аблвыканкама Б. Батурам. Той запрасіў на гэтую сустрэчу начальніка абласнога ўпраўлення адукацыі В. Багданава і пераадрасаваў гэтае пытанне яму. Не знайшоўшы аргументаў супраць, Валерый Стэфанавіч заверыў старшыню, што беларускі клас у чатыры чалавекі будзе адкрыты. Напачатку было слова, і слова было сказана 23 жніўня. На шлях ад слова да справы заставалася 8 дзён. І гэтага было дастаткова, бо і настаўнікі ўжо былі падабраны (аўтар гэтых радкоў збіраўся выкладаць у гэтым класе матэматыку), і праблема з падручнікамі вырашалася. Дастаткова, калі б за словам стаяла шчырае жаданне дапамагчы чатыром беларускім дзеткам. Але...

У суботу, 31 жніўня, В. Багданаў напісаў ліст да главы адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Магілёва:

***"Главе администрации Октябрьского района гор. Могилева***

*ЛЕБЕДЕВУ Е. А.*

*Уважаемый Евгений Алексеевич! В связи с поручением председателя областного исполнительного комитета Батуры Б. В. прошу со 2 сентября 2002 года открыть на базе национальной гимназии с общественно-гуманитарным профилем 7-ой класс с белорусским языком обучения на основании четырех заявлений родителей учеников школ г. Могилева.*

***С уважением,***
***Начальник управления образования***
***В. С. Богданов".***

Што перашкодзіла Валерыю Стэфанавічу напісаць такі ліст тыднем раней, мы не ведаем. Але калі аўтар гэтых радкоў узяўся выканаць ролю кур'ера і даставіць ліст проста ў рукі Я. Лебедзеву, бо пасылаць поштай было ўжо позна, адбылося нешта надзвычайнае. Яўген Аляксеевіч, якога ў суботу пашчасціла застаць на працоўным месцы, катэгарычна адмовіўся прыняць гэты ліст, прапанаваўшы прынесці яго ў панядзелак у агульны аддзел і зарэгістраваць. "Але ж, – запярэчыў я, – пытанне можа быць вырашана толькі сёння ці ніколі." На гэта галава паклаў трубку (размаўляў я з ім праз тэлефон вахцёра).

Збянтэжаны, я вырашыў пачакаць, пакуль галава будзе выходзіць, спадзяючыся, што некалькімі словамі, сказанымі па дарозе, я змагу патлумачыць сітуацыю. Вахцёрка патэлефанавала яму, што я яшчэ чакаю, і, мабыць, атрымала заданне выдаліць мяне з памяшкання, што і пачала даволі энергічна рабіць, патрабуючы, каб я сышоў. Але я адмовіўся. Тады галава паклікаў да сябе кіроўцу, які чакаў яго ў машыне, і малады хлопец далучыўся да вахцёркі, пераконваючы мяне, што лепш пакінуць памяшканне, бо дзень выхадны і мая прысутнасць ёсць парушэнне, могуць выклікаць міліцыю. Я пагадзіўся, што трэба выклікаць міліцыю. Параіўшыся з Яўгенам Аляксеевічам, вахцёрка выклікала міліцыю.

Прыехалі чатыры магутных мужчыны, адзін з аўтаматам, ратаваць адміністрацыю ад хулігана з паперкай. Праверыўшы мой кейс наконт наяўнасці там бомбы і не знайшоўшы яе, яны пачалі распытваць, чаго я хачу. Я расказаў, што прывёз Я. Лебедзеву паперу з аблвыканкаму і хачу перадаць яе. Не бачачы тут парушэнняў, ахоўнікі парадку пачалі тэлефанаваць свайму начальству. "... Дык ён нічога не парушае... Не, цвярозы... Ён паперу прывёз... Лебедзеву ад Багданава... Хоча перадаць... Не, больш нічога... Не, бойкі не было... Ён не рваўся наверх... Ён чакаў каля вахцёра..." Мабыць, ім параілі патэлефанаваць самому Я. Лебедзеву, што яны і зрабілі. Потым павярнуліся да мяне: "Мы вас завязём да свайго начальніка." – "Паехалі, – ахвотна пагадзіўся я, – калі ў вашага начальніка часу болей, чым у Лебедзева, будзем з ім абмяркоўваць праблему беларускага класа." Але, відаць, турбаваць свайго начальніка такой праблемай ім не хацелася і яны зноў пачалі абмяркоўваць, што са мной рабіць. "Складзіце пратакол," – падказаў я. "Мы не можам складаць пратакол, – патлумачылі мне, – пратаколы складаюць толькі афіцэры." І зноў доўгія тэлефонныя высвятленні, ці везці мяне, і калі везці, то куды. Урэшце, мабыць, нехта згадзіўся, каб завезлі да яго.

Але тут мы ўбачылі Я. Лебедзева, які спускаўся па лесвіцы. Я з паперай у руках зрабіў крок насустрач яму. Але Яўген Аляксеевіч замахаў рукамі: "Я ж вам сказаў, каб у панядзелак перадалі паперу ў агульны аддзел." І, абмінуўшы мяне, хутка выйшаў. "Ну вось, – павярнуўся я да міліцыянтаў, – цяпер я ведаю пазіцыю Лебедзева. Больш мне нічога не трэба." – "І вы пойдзеце дадому?" – узрадавана спыталі мяне. – "Калі адпускаеце, то пайду." Зноў пачаліся тэлефанаванні: "... Сітуацыя памянялася. Ён пагаварыў з Лебедзевым і ўсё высветліў... Ён гаворыць, што пойдзе дадому..." Урэшце хулігана адпусцілі. Мы з сяржантам Кулікоўскім (ён быў сярод чатырох старшы) паціснулі адзін аднаму рукі і разышліся.

На тым і скончылася эпапея адкрыцця ў Магілёве беларускага класа. Вечарам мы патэлефанавалі бацькам, што класа не будзе.

Класа не будзе, але праблема не здымаецца. Мяркую, што гэтыя чацвёра не зменяць сваіх намераў праз год і пададуць заявы ў восьмы беларускі клас. Пакуль што я з імі буду займацца дадаткова матэматыкай, удасканальваючы іх матэматычныя веды і паступова прывучаючы да беларускай матэматычнай тэрміналогіі. Магчыма, за год да іх далучыцца яшчэ некалькі чалавек. Але, мяркую, шмат іх не будзе. І праз год трэба бадзе зноў вярнуцца да адкрыцця "нестандартнага" беларускага класа з некалькіх чалавек. А калі знойдуцца такія ж ахвотнікі і ў іншыя класы? Ці не пара падумаць пра адну беларускую школу ў Магілёве? Магчыма нават пра школу-інтэрнат, дзе б магла вучыцца і Маша Каралькова. Яшчэ лепш, калі гэта будзе не школа, а гімназія-ліцэй. Бо настаўнікаў, для якіх беларуская мова – родная, у Магілёве шмат, і яны здольныя навучаць тых, хто гатовы ўспрымаць гэтую мову, на самым высокім узроўні...

***Міхась Булавацкі,***
*настаўнік матэматыкі,*
*старшыня абласной арганізацыі ТБМ.*

МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

Праспект Машэрава,11, 220004, г. Мінск
Тэлефон (017) 223 75 74
Тэлефакс (017) 223 90 45

Проспект Машерова,11, 220004, г. Минск
Телефон (017) 223 75 74
Телефакс (017) 223 90 45

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**
**Алегу Трусаву**

Разгледзеўшы Ваш ліст адносна выратавання і захавання каштоўнасцяў і рэчаў, застаўшыхся пасля пажару, у якім згарэла хата В. А. Ніжаноўскай-Тарашкевіч, паведамляем наступнае.

Міністэрства культуры не мае бюджэтных сродкаў, якія маглі б быць выкарыстаны на аднаўленне будынка, а таксама пошук, рэстаўрацыю рэчаў і каштоўнасцяў, захаваўшыхся пасля пажару. На дадзеным этапе мэтазгодна далучыць да гэтай працы спецыялістаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея (г. Маладзечна), мясцовыя органы ўлады, а таксама сяброў і актывістаў Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і іншых грамадскіх арганізацый.

**Намеснік Міністра В. К. Гедройц.**

## Пасля летняга перапынку аднавіла сваю дзейнасць бібліятэка Таварыства беларускай мовы

За апошнія месяцы нашыя фонды папоўніліся новымі выданнямі, у прыватнасці:

– **Мінск незнаёмы: 1920 – 1940: Фотаальбом** – унікальнае гістарычна-дакументальнае выданне, якое дазваляе зрабіць своеасаблівае падарожжа па старых менскіх вуліцах, чыё аблічча сёння незваротна змянілася;

– **Савік Л. Пакліканыя: Літаратура беларускага замежжа** – ці не першы выдадзены на Беларусі насамрэч грунтоўны і сістэмны разгляд творчасці буйнейшых аўтараў-эмігрантаў: Наталлі Арсенневай, Уладзіміра Дудзіцкага, Хведара Ільляшэвіча, Алеся Салаўя, Масея Сяднёва і іншых. Кніга прасякнутая імкненнем паказаць неадлучнасць эміграцкай творчасці ад літаратурнага руху на Бацькаўшчыне, раскрыць значэнне дзейнасці беларусаў замежжа ва ўмацаванні нацыянальнага беларускага духу. Аўтарка – літаратуразнавец, крытык, акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі – шырока карыстаецца цяжкадаступнымі на Беларусі літаратурна-крытычнымі матэрыяламі і архівамі творцаў-эмігрантаў. Акрамя таго, вартасць кнігі павялічвае наяўнасць бібліяграфіі да кожнага раздзела;

– **Прыказкі Лагойшчыны:** Запісаў Адам Варлыга – выданне 1966 года, ажыццёўленае Беларускім інстытутам навукі і мастацтва (Нью-Ёрк – Мюнхен). Кніга будзе надзвычай цікавай для тых, хто ўдасканальвае сваю моўную культуру. Такія раздзелы, як "Прыказкі, прымаўкі, выказы", "Прывітаньні й адказы на прывітаньні", "Клёнка й лаянка", "Загадкі" дазваляюць патрапіць у стыхію каларытнай, жывой народнай мовы, а ўступны артыкул Р. Максімовіча раскрывае нацыянальныя своеасаблівасці беларускіх прыказак і прымавак;

– **Запруднік Я. Дванаццатка:** Дакументальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі і Бельгіі (1946 – 1954 гг.) – Нью-Ёрк, 2002;

Узбагаціліся таксама зборы выданняў пачатку – першай паловы XX стагоддзя. Вось асобныя кнігі з ліку новых паступленняў:

– **Гарун А. Матчын дар:** Думкі і песьні. 1907 – 1914 гг./ Пад рэд. І. Замоціна. – Т. 1. Сш. 1. – Менск, 1929;

– **Працы камісіі гісторыі мастацтва** / Пад рэд. М. Шчакаціхіна. – Менск, 1928;

– **Усходняя Беларусь:** Статыстычныя і гістарычныя матэрыялы. – Менск, 1918.

Ласкава запрашаем Вас наведаць бібліятэку ТБМ на Румянцава, 13 у наступны час:

**Аўторак 15.00 – 18.00. Чацвер 15.00 – 18.00.**

***Таццяна Вабішчэвіч.***

## Семінар "Школа прафесійных журналістаў" у Літве

Ужо колькі год існуе добрая традыцыя праводзіць семінары па журналістыцы. На адзін з іх у летку гэтага года нашы журналісты трапілі ў Літву.

Ветлівыя гаспадары незалежнай Літвы старанна выконвалі план семінара.

Яны падрыхтавалі цікавую праграму ў якую ўваходзілі: азнаямленне з Вільняй, Марцінконісам і Грудас-паркам.

Семінар "Школа прафесійных журналістаў" нагадваў дыскусійны клуб. Удзельнікі абменьваліся досведам, абмяркоўвалі шмат сітуацый, выказвалі свае думкі. Вечарамі ўсе збіраліся і спявалі песні, танцавалі, жартавалі, весяліліся.

Напрыканцы семінару была экскурсія ў Грудас парк, які ўжо наведалі жыхары сямідзесяці пяці краін свету. На яго тэрыторыю збіралася ўсё тое, што ўзгадвала пра камуністычнае ўчора. Там можна ўбачыць шмат розных выяў Леніна, Сталіна і іншых дзеячоў савецкага мінулага.

З парку ўся група адправілася ў Вільню-былую сталіцу ВКЛ. Многія з прысутных былі ў старадаўнім горадзе ў першыню. Магчыма таму, так і ўразіла яна, прыгажуня Вільня.

***Ірына Секержыцкая.***



**Удзельнікі семінару**





# Поўніцца Старадарожскі прыватны музей

У гонар Дня беларускага пісьменства і друку, 1 верасня, у Старых Дарогах у прыватным музеі выяўленчага мастацтва і культуры яго арганізатарам і гаспадаром Анатолем Белым было арганізавана адкрыццё трох помнікаў: знакамітаму гісторыку Міколу Улашчыку (кіраўнік праекта А. Белы, скульптар А. Шатэрнік) – барэльеф, факсімільны подпіс, радок любімага ім верша Ларысы Геніюш змешчаны на трохмятровым камені, а два стылізаваныя велічэзныя барэльефы з бляхі – канцлера ВКЛ Льва Сапегі (макет А. Крывенкі, выканаўца А. Белы), Ефрасінні Полацкай (макет І. Голубева, выканаўца А. Белы) змясціліся звонку на сцяне музея.

На адкрыцці прысутнічалі жыхары з Старых Дарог, з Менска, дзеячы розных грамадскіх арганізацый. Перад імі выступілі: выдавец кніг Улашчыка, асабіста з ім знаёмы А. Валахановіч, акадэмік, доктар тэхнічных навук, прафесар А. Саламонаў. Яны расказалі пра дзейнасць выбітнага гісторыка, некалькі рызоў рэпрэсаванага, пра яго вялікі ўнёсак у нашу гістарыяграфію.

Летась, у такі ж дзень, тут адбылося таксама адкрыццё трох помнікаў: бацьку і сыну Багдановічам, Анатолю Бярозку – беларускаму паэту-эмігранту.



Падчас адкрыцця помнікаў



Ефрасіння Полацкая



Канцлер Леў Сапега

У самадзейным музеі Анатоля Белага больш дзвюх тысяч экспанатаў. Гэта – уласныя набыткі, ахвяраванні дзеячоў культуры, дарункі мастакоў, простых грамадзян. Музей развіваецца. Хутка вонкавы выгляд сцяны музея набудзе



Помнік Міколу Ўлашчыку

выгляд іканастаса выяў постацяў заслужаных сыноў і дачок Бацькаўшчыны.

Побач з двухпавярховым комплексам будынкаў музея, дзе размешчаны пантэон помнікаў (іх зараз дзесяць) рыхтуецца да адкрыцця яшчэ адзін: змагарам за родную мову. На ім змесцяць каля ста вядомых прозвішчаў ад часоў Ф. Скарыны да нашых дзён.

Мець уласныя музеі – традыцыя на Беларусі даўняя. У старажытнасці кожны магнат лічыў за гонар мець у сябе якісь музей. Як бачым, традыцыя адраджаецца. Такая ініцыятыва ўжо не адзінкавая.

*Мікола Лавіцкі.*

# Дыплом Камісіі па справах ЮНЕСКА - лідскаму мастаку Рычарду Грушу



Уладзімір Шчасны ўручае дыплом Камісіі па справах ЮНЕСКА Рычарду Грушу



Рычард Груша. Дарога ў Заполле. Алей.

19 верасня ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі адбылося адкрыццё персанальнай выставы лідскага мастака Рычарда Грушы "Радзіма Дамейкі вачыма мастака".

У апошні час Рычард Груша вызначыўся важкім унёскам у беларускае мастацтва: гэта яго восьмая персанальная выстава за год. Рычард Груша спрычыніўся да справы ўшанавання Ігната Дамейкі ў яго 200-годдзе. Ім быў створаны памятны знак Ігнату Дамейку для в. Крупава, памятны знак Адаму Міцкевічу для Навагрудка, помнік на магілу бацькі Ігната Дамейкі ў Міры. Гэты ўнёсак быў належным чынам ацэнены. Падчас адкрыцця выставы старшыня Рэспубліканскай камісіі па справах ЮНЕСКА Уладзімір Шчасны ўручыў Рычарду Грушу дыплом гэтай Камісіі.

Старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп, які на выставе выступаў у якасці старшыні Беларускага камітэту Міжнароднай рады па помніках і мясцінах (ІКАМОС) уручыў Рычарду Грушу статут Рады з прапановай далучыцца да яе дзейнасці. Фактычна гаворка ідзе пра стварэнне ў Лідзе творчай майстэрні ІКАМОС.

На выставе прысутнічалі мастакі, прадстаўнікі ўлады і грамадскасці з Ліды, Менска, Навагрудка і Карэліч.

*Яраслаў Грынкевіч.*



БРЭСЦКІ АБЛАСНЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
224006, Брэст, вул. Леніна, 11
тэл. 23-56-82, факс 23-51-82

БРЕСТСКИЙ ОБЛАСТНОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
224006, Брест, ул. Ленина, 11
тел. 23-56-82, факс 23-51-82

**Старшыні ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алегу Трусаву**

**Паважаны Алег Анатолевіч!**

На Ваш ліст ад 30 ліпеня 2002 года № 368 паведамляем, што ў Брэсцкай вобласці Баранавіцкім райвыканкамам праводзіцца пэўная работа па ўшанаванні імя Ігната Дамейкі.

У сувязі з тым, што І. Дамейка хрышчоны ў касцёле в. Паланечка, парафіяльным саветам плануецца ўстанавіць памятную пліту на будынку касцёла.

У вёсцы Крошын будзе заменены стары памятны знак на новы каля дуба, які пасадзіў Ігнат Іпалітавіч у 1884 годзе ў час наведвання радзімы.

Сіламі мясцовага лесагадавальніка добраўпарадкоўваецца старадаўні гістарычны парк "Сачыўкі", які размяшчаецца на месцы колішняга радавога маёнтка продкаў І. Дамейкі.

На могілках Стаўловіцкага сельскага савета будзе пастаўлены мемарыяльны знак на месцы пахавання продкаў І. Дамейкі.

Ва ўсіх пералічаных мерапрыемствах актыўны ўдзел прымаюць навучальныя ўстановы Баранавіцкага раёна.

Што тычыцца надання імя Ігната Дамейкі "лепшай школе раёна, або вуліцы ці плошчы ў Баранавічах" лічым мэтазгодным звярнуцца з гэтай прапановай у Карэліцкі райвыканкам Гродзенскай вобласці, дзе нарадзіўся Ігнат Іпалітавіч Дамейка.

**Намеснік старшыні аблвыканкама Л. А. Цупрык.**

*Уладзімір Бярбераў:*

# Мару пра адраджэнне сапраўднай мацянкі

## *Інтэрвію на валізах*

Крытыкі б'юць трывогу: прафесійныя выканаўцы фальклёру ўсё часцей у пагоні за прыбыткам імкнуцца пайсці за густамі натоўпу, адкідваючы пры гэтым самае асноўнае ў беларускай народнай песні—яе гарманічнасць і зварот да душэўных глыбінь. На іх канцэртах, бывае, ужо беларуская песня і не гаспадарыць: "Ехал на ярморку ухарь-купец" ды "Камаринская" становіцца самым неабходным атрыбутам, каб папоўніць кішэні сумнеўным прыбыткам.

Але дзякаваць Богу, на беларускай фальклёр-най сцэне з'явілася плынь выканаўцаў, якія знаходзячыся ў апазіцыі да такога падыходу, падтрымліваюць высокую планку беларускай народнай песні ды нацыянальнага фальклёрнага кірунку ўвогуле. Адным з лідараў яго па праву лічыцца гурт фальклёрнай музыкі "Ліцвіны" і яго лідар У. Бярбераў. Напярэдадні гастрольнага туру па Францыі спадар Бярбераў завітаў у нашу рэдакцыю і згадзіўся адказаць на пытанні карэспандэнта "Нашага слова".

***-- Вы ад'язджаеце на гастролі ў Францыю. Для беларускіх фальклёрных выканаўцаў гэта падзея больш чым неардынарная. Што паслужыла перадумовай для гэтых канцэртаў?***

-- Нагадаю, гэта не першыя нашыя гастролі па Францыі. Перадумовай нашага выезду ў гэтую краіну стала, па-сутнасці, выпадковасць. Проста адна наша добрая знаёмая займаецца арганізацыяй гастрольных паездак менскіх музыкаў за мяжу. І вось аднойчы яна прапанавала зрабіць такія гастролі і "Ліцвінам" замест фальклёрнага гурта, які адмовіўся ад такой паездкі ў Францыю. Мусіць, у іх была больш выгадная прапанова. Таму мы згадзіліся і разам здзейснілі такое падарожжа. Тады ў Францыі з канцэртамі нас выступала чацвёра, і мы далі каля 20 канцэртаў на вельмі старажытных французкіх гарадах і іх ваколіцах.

Зараз, у другі раз, у Францыю апроч "Ліцвіноў" не едзе ніхто і будуць адбывацца толькі нашыя канцэрты і нічога болей, акрамя беларускіх спеваў. Агульная колькасць удзельнікаў гэтых гастроляў узрасла да шасці чалавек. Давялося паспрачацца з арганізатарамі з французкага боку на гэты конт. Але да нас прыслухаліся і згадзіліся, што шасцёра—гэта паўнавартасныя "Ліцвіны". На канцэрце ў Францыі будуць гучаць наступныя інструментальныя спалучэнні: скрыпка-цымбалы-дуда, скрыпка-цымбалы-гармонік плюс вакалісты.

Мы бачым задачу гэтай паездкі ў тым: зрабіць усё каб беларускі фальклёр палюбілі французкіх слухачы, каб у людзей узнікла жаданне запрашаць "Ліцвіноў" і надалей поўным складам. Усе перадумовы для гэтага мы маем.

***-- Якія новыя творы вы гатовыя паказаць слухачам, у тым ліку і французскім?***

-- У нашых французскіх выступах будзе выконвацца трохі менш твораў у параўнанні з тым, што мы маем у сваім рэпертуары. Але мы гатовыя паказаць новыя песні і інструментальныя кампазіцыі. Для гэтага мы спецыяльна паскорылі іх падрыхтоўку, каб упершыню іх прэзентаваць французскім слухачам.

Мы спадзяёмся на ўдалую прэм'еру гэтых апрацовак, каб потым увесці іх у нашую праграму, тым больш, што шмат з іх ужо "праектуюцца" на новы альбом "Ліцвіноў". Мы ведаем, што ў Францыі праца будзе вельмі інтэнсіўнай, як і ў мінулы раз. Так што, мы прывязём дадому новы музычны матэрыял ужо адшліфаваным.

***-- Выпуск другога накладу дыска "Ой, у лузе-лузе..." прымеркаваны, напэўна, як раз да гэтай паездкі? Чым ён адрозніваецца ад першапачатковага варыянту знанага выдання "Ліцвіноў"?***

-- Новы наклад дыска "Ой, у лузе-лузе....", сапраўды, прымеркаваны да гэтых гастроляў. Бо той папярэдні наклад ужо скончыўся. За дзень да гэтага я аддаў апошнія шэсць дыскаў чалавеку, які хацеў набыць дванадцаць экзампляраў.

Знешне будзе адразу бачна, што гэта дыск з другога накладу, хоць прынцыпова нічога ў дызайне не памянялася. Проста раней ён быў задуманы цёмна-пунцовым па колеры. Раней гэта было немагчыма тэхналагічна і таму першы наклад дыска пакрылі чырвоным лакам. Зараз гэтых перашкод няма і дыск мае першапачатковы выгляд, у адпаведнасці с задумай дызайнера.

Апрач таго, на дыску з'явіўся яшчэ адзін трэк. Паколькі на дыску было яшчэ даволі незапоўненага месца, то мы вырашылі "ўпісаць" дадатковы файл. Гэта 17 хвілін відэа, праўда, відэа аматарскага. Гэта запіс, які быў зроблены на адным з нашых канцэртаў, што адбыўся неўзабаве пасля запісу гэтага альбома. Таму там зафіксаваны дакладна той самы склад гурта, які запісаў дыск—чалавек у чалавек...

Заадно, хачу супакоіць патэнцыяльных пакупнікоў і слухачоў – на кошт дыска выдэатрэк не паўплывае. Як і на яго чытэльнасць на звычайным CD-плэеры. Так што, хто не паспеў набыць раней дыск "Ой, у лузе-лузе...." можа смела зрабіць гэта зараз.

***-- Спадар Бярбераў, вы плануеце запіс новых апрацовак беларускага фальклёру? Ці хутка чакаць прыхільнікам "Ліцвіноў" новага дыска?***

-- Што тычыцца новага альбома, то гэта на сёння пытанне чыста фінансавае. У прынцыпе, новы альбом мы маглі пісаць ужо і раней. Але , можа гэта і добра, што мы не паспяшаліся. Бо зараз мы адшукалі вельмі цікавыя творы, якія, безумоўна, трэба уключаць у наш новы альбом.

Акрамя гэтага, у нас ёсць мэта выдаць на CD нашыя старыя альбомы, што запісваліся намі на касетах. Там зафіксавана шмат цікавага музычнага матэрыялу. Дарэчы, мы ўжо "перагналі" яго на дыскі. Хоць гэта павышае кошт праекту, але гэта трэба рабіць па формуле "адзін новы дыск плюс адзін стары дыск".

Канешне, хацелася б зрабіць яшчэ шмат. Але я ўсведамляю тое, колькі музычных шэдэўраў беларускага фальклёру яшчэ нават і не зафіксавана. На досведзе нашых фальклёрных экспедыцый мы ведаем, што песні, запісаныя намі раней, аніякімі зборамі не зафіксаваныя, нідзе не сустракаюцца. Частку гэтага матэрыялу мы выканалі за гады існавання "Ліцвіноў", частку яшчэ не.

Цяпер мы не вельмі часта бываем у фальклёрных экспедыцыях, бо і тут усё ўпіраецца ў матэрыяльнае пытанне. Раней такія экспедыцыі абходзіліся ў капейкі, ну а не так даўно давялося аб'ехаць невялікую колькасць вёсак аднаго раёна і гэта мне каштавала каля пяцідзесяці даляраў. Можна ўявіць тое, колькі будзе каштаваць цяпер паўнавартасная экспедыцыя!

***-- Цікавасць да музыкі "Ліцвіноў" у Францыі можна тлумачыць і тым, што там слухачы яшчэ могуць ацаніць гранне дудара. А ці можна казаць пра рэнесанс беларускай дуды ў Беларусі?***

-- Адназначна, мы можам смела казаць пра рэнесанс гэтага ўнікальнага інструмента ў нашай краіне. І мне вельмі прыемна, што "Ліцвіны", сярод іншых, шмат зрабілі для папулярызацыі беларускай дуды. Хаця і не былі першымі ў гэтай справе. Глядзіце, сёння нават аркестр імя Жыновіча, які ўяўляе сабой прыклад самага кансерватыўнага падыходу да беларускага фальклёру, і то ў свае выступы пачаў уводзіць беларускую дуду! Гэта, канешне, паказчык. Як і тое, што дуда пачала паўнапраўна гучаць у шматлікіх беларускіх фолк-рок-гуртах.

Дарэчы, я асабіста граю на дудзе майстра Віктара Кульпіна, які, таксама, шмат зрабіў для папулярызацыі інструмента. Спадара Кульпіна і яго інструменты шмат крытыкуюць за няпоўную адпаведнасць іканаграфіі ды гістарычнай праўдзе. Тым не менш, гэты майстар дабіўся добрых прафесійных якасцяў і надзейнасці інструментаў, што вельмі важна для канцэртоўных музыкантаў. Я б параіў Віктару Кульпіну вучыцца ў сваіх крытыкаў гістарычнай адпаведнасці, а тых – дасягаць вялікай ступені надзейнасці і зручнасці інструментаў падчас канцэртаў. Віктар Кульпін зрабіў беларускую дуду інструментам масавым, хоць яна і набыла ў яго некаторыя "папсовыя" якасці.

Сам жа зараз займаюся тым, што збіраю матэрыял для аднаўлення іншага тыпу беларускай дуды—мацянкі. Мне здаецца, што іншыя даследчыкі не зусім правільна разумеюць тое, як насамрэч выглядала мацянка. Я ж даўно цікаўлюся гэтым інструментам, знайшоў некаторыя згадкі пра яго ў беларускіх этнографаў. Мала таго, я пазнаёміўся з чалавекам, які ў 50-тыя гады яшчэ чуў гучанне гэтага інструмента, памятае, як ён выглядае. Паводле яго расповедаў я і стараюся аднавіць вонкавы выгляд і гучанне гэтага ўнікальнага інструмента. Але завершыць гэтую справу магчыма будзе толькі тады, калі ў мяне з'явіцца дастаткова сродкаў, каб майстры ўзяліся гэта зрабіць па маіх напрацоўках. Так што, гастролі ў Францыі – яшчэ адзін крок да рэалізацыі гэтай задумы...

*Гутарыў*
*Анатоль Мяльгуй.*




# Тарас Шаўчэнка ў Берасці

У рам-ках Дзён культуры Чаркасскай вобласці Украіны на Берасцейшчыне ў абласным цэнтры адкрыты бюст паэту Тарасу Рыгоравічу Шаўчэнку на бульвары, які носіць яго імя. Гэта 280-ты помнік вялікаму ўкраінскаму Кабзару сярод пастаўленых па ўсім свеце і другі ў Беларусі. Бюст падараваны берасцейцам украінцамі.



*На здымку: адкрыццё бюста Тарасу Шаўчэнку.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 23. 09. 2002 г.
Наклад 2450 асобнікаў. Замова № 1728.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 489 руб., 3 мес.- 1467 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.